


*Брацік і сястрычка.* *Фота В. Леўчук.*

**№ 9 (1177) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 2.III.1980 г.**

**Вольга Кірылава**

## ТОМА РАШАЕ ЗАДАЧЫ

Тома навучылася лічыць і просіць маму, каб задавала ёй задачкі.

— Добра, — згаджаецца мама. — У цябе было сем яблыкаў, а ў Іры пяць. Колькі яблыкаў было ў вас разам?

Тома лічыць на пальцах. Але іх не хапае і малая ў разгубленасці.

— Трынаццаць, — адказвае не зусім упэўнена.

— Няправільна. Палічы лепш.

— Адзінаццаць.

— Не.

— Пятнаццаць.

— Зноў не так.

— Ты заўсёды мне не верыш, — ужо ледзь не са слязьмі кажа дзяўчынка.

— А цяпер, Тома, такая задача. У цябе было пятнаццаць цукерак. Пяць ты дала бабулі, дзве Славу. Колькі цукерак у цябе засталося?

— Чаму мне толькі дзве? — спахопліваецца Слава, вялікі ласун.

— Слава, гэта ж умова задачы, — тлумачыцца мама і ўсміхаецца.

— Усё роўна. Хачу болей!

— Ну, добра, — уступае мама. — Табе Тома дала шэсць цукерак.

— Во цяпер няхай рашае.



**І. Вярыга**

## ДРЭННАЯ КАЗКА

Вася вельмі любіў слухаць казкі. Аднойчы яму расказалі пра лісіцу-хітрыцу.

„Як ні стараліся і воўк, і мядзведзь, і нават цар звяроў леў расправіцца з вожыкам, — ніяк не прыступіцца: калючкі вострыя. А лісіца ўхітрылася. Яна закаціла вожыка ў лужыну. Вожык раскруціўся, каб паплыць, а яна тады цап яго за голы жывот. Толькі калючкі ад вожыка засталіся,“ — слухаў Вася, і на вачах яго наварочваліся слёзы. Заўсёды ён радаваўся кожнай новай казцы, а тут сядзіць нерухома, задуманы.

— Дрэнная казка, — нарэшце прамовіў хлопчык, — вы больш нікому яе не расказвайце.

— Гэта чаму?

— Каб звяры не даведаліся, як можна вожыка з'есці.





**Ф. Рамашка**

## ЛІХТАРЫКІ З МУЗЫКАЙ

Прыгожа ў зімовым садзе. Усе дрэвы ў бялюткім убранні. Любіць сюды прыходзіць Юлька. Нібы ў казку трапляе. Толькі вось мароз аж у рукавічкі залез. Шчыпле за пальчыкі.

— Рум, рум, рум, — раптам данесліся з глыбіні саду меладычныя гукі.

Хто там грае? Пайшла дзяўчынка далей.

Непадалёку ад сцяжынкі на бялюткім снезе свяціліся яркачырвоныя ліхтарыкі. Дык вось хто грае!

Прыбегла Юлька ў хату і просіць маму:

— Пойдзем, паслухаем. У садзе ліхтарыкі з музыкай!

Выйшла ў сад мама. Прыслухалася. Усміхнулася і кажа:

— Гэта ж, дачушка, снегіры. І калі хочаш заўсёды слухаць іх музыку, прынось ім ягады. Цяжка птушкам у снежную пару з кормам.

Штодня цяпер выходзіць Юлька ў сад слухаць музыку жывых ліхтарыкаў. У руках заўсёды трымае чырвоныя журавіны.

## ЯК ЛЕТА ПРЫЕХАЛА

Міколка з татам чакаюць маму. Сёння яна прыедзе з горада. На пероне ціха. Толькі рыпіць снег пад татавымі ботамі.

— Тупай ножкамі, тады і мароз уцячэ, — раіць тата.

Удалечыні паказаўся паравоз. Узрадаваўся Міколка. Дачакаўся маму. Але гэта быў таварняк. Зарыпелі тармазы, і ён спыніўся. Данёсся прыемны пах сушаных траў. На рэйках стаялі платформы з сенам.

— Лета прыехала! Лета прыехала! — усклікнуў Міколка.

І ўспомнілася хлопчыку, як ён з мамай зграбаў духмяныя травы на лузе. Як пякло ліпеньскае сонца! Ад успамінаў стала цяплей. Расчырванеліся шчокі ў Міколкі.

Нарэшце прыехала і мама.

— Замёрз, сынок? — прытуліла яна да сябе Міколку.

— Толькі спачатку. Пасля лета прыехала. А з табой, мама, мне заўсёды цёпла.



С. Раманоўскі

# Зялёны певень

Галіны на вяршыні елкі былі падобны на пеўня: адна галіна распушана веерам — гэта хвост, другая, з бародкай і грэбенем, узнята ў неба — гэта галава. Узлез зялёны певень на самую вяршыню і ад радасці, ад таго, што далёка відаць або па іншай прычыне, узняў галаву і заспяваў на ўсю ваколіцу.

Але спяваў ён бязгучна, таму што певень гэты — адны галіны. І не кожны чалавек яго ўбачыць, а праходзіць каля яго — кожны праходзіў: гэта елка стаіць недалёка ад дарогі. Уверх людзі не глядзяць, ці што? Але не, глядзяць...

Алёша гэтага пеўня ведаў з тых часоў, як памятае сябе.

Зімой пайшоў Алёша з татам на паляванне. Дрэвы ў снезе. Певень блішчыць, як выкаваны са срэбра.

— Прыгожы які! — дзівіўся Алёша. — Хвост распусціў. І спявае! І спявае! І спявае! А што спявае? Якую песню?

— Ты аб чым пытаеш, сынку? Што спявае певень? О-о, гэта доўгая гісторыя. Такі певень відаць здалёк, і спеў яго няпросты.

Толькі ён сабраўся расказаць, як адкуль ні вазьміся — з неба, ці што? — апусцілася на дрэва чародка бліскуча-чорных, цяжкіх птушак. Бровы ў іх чырвоныя, а хвасты раздвоены і выгнуты ў абодва бакі, як ліры.

Знік певень. Няма яго. У некалькі паверхаў сядзяць па ўсёй елцы чырвонабровыя птушкі. Прыгнулі галіны, лапкамі пад сабою пераступаюць. І чуваць: сыплецца з дрэва снег, шуршыць, пад ногі сцелецца.

Бацька сцягнуў з пляча стрэльбу — з шумам узняліся ў паветра птушкі і паляцелі. Цецерукі гэта былі. І ўся елка задымілася снежным дымам, і дыміла яна доўга.

Дзе ж певень? Ёсць певень! Вунь ён калышацца. Прыгнулі яго, было, цецерукі, паляцелі, і цяпер ён выпрастоўваецца.

— Аб чым ён спявае?

— Аб чым ён спявае? — успомніў бацька. — Ды ні аб чым.

„Ку-ка-рэ-ку!“ Інакш пеўні спяваць не ўмеюць. Можа, у вялікіх гарадах нейкія вучоныя пеўні ёсць. А нашыя вясковыя крычаць адно і тое ж: „Ку-ка-рэ-ку!: А гэты маўчун. Яго і „Ку-ка-рэ-ку!“ не навучыш. А паглядзіш на яго збоку — трубач трубачом. Спявак. Талент. Толькі што безгалосы.

Зіму і вясну трубіў нячутна певень над лесам у неба. Быў ён і белы ад снегу, і сярэбраны ад інею, і блакітны ад лёду.

З цяплом певень распушыўся, патаўсцеў і зазелянеў. А на досвітку наліваўся ён кудлатым дыяментава-залатым святлом, і грэбень яго пераліваўся золатам. Здаецца, махне певень шырокімі, моцнымі, смалістымі крыламі і паляціць.

Куды? Яму аднаму вядома.

Але певень не паляцеў. Сонца спускалася, і ўнізе ў лесе было цёмна. Але ў пеўня грэбень яшчэ доўга быў залаты, а барада і хвост бардовыя. У яго на версе яшчэ доўга гасцявала сонейка.

Пачаліся навальніцы. Дождж ліўся начамі, і бацька хваліў:

— Разумныя сёлета навальніцы.

Удзень даюць людзям папрацаваць, а ноччу зямлю поюць. Даюць хлебу расці. Рабочы чалавек і пры навальніцы засне.

— Пайшлі, сынку, пагуляем.

— Пойдзем праветрымся! — уцешыўся Алёшка. — Пеўня паглядзім.

Яны пайшлі ў лес, наскрозь мокры.

Пеўня на макаўцы не было. А былі абцяжараныя вадой галіны. Яны прыцісналіся да ствала дрэва, мерзлі пасля навальніцы.



— А дзе ж певень? — заныў Алёшка.

Бацька прыклаў палец да вуснаў і паказаў вачамі ў прасвет паміж папараццю. Туды, маўляў, глядзі, на бруснічнік.

Алёшка паглядзеў туды і не адразу разгледзеў на зямлі велізарную, з Алёшку, буравата-рыжую птушку.

Аб усім на свеце забыўся Алёшка.

Птушка піла з ласінага следу, як з чайнага сподачка. Нахіліцца, набярэ ў дзюбу вады, адкінецца, дачакаецца, пакуль вада пацячэ ў горла, зноў нахіліцца...

Вось яна закудахтала басам, ад якога халадок прайшоў па спіне Алёшкі, і села на ніжнюю галіну. Галіна прыгнулася і хруснула. Птушка апусцілася на зямлю, зноў закудахтала басам, і ў бруснічніку пачаўся рух. Велізарная птушка адыходзіла ў ягаднік, а па баках яе, злева і справа, ішлі рыжыя, велічынёй з курыцу, птушаняты.

Зрабілася ціха, халаднавата.

— Глушыца глушанят збірала, — сказаў бацька шэптам. — Сабрала і павяла ў добрае месца. Добрая маці глушыца. Цудоўная! А голас у яе які — чуў? Бас! Другога такога голасу не пачуеш. Хіба што ў спевака якога. Слаўнага...

І пагладзіў Алёшку па галаве.

— Удалося табе, сынку, — сказаў ён. — Мала хто глушыцу бачыў і чуў. Вось так, як мы з табою. У кіно яе не пакажуць — не хоча яна здымацца ў кіно.

— А певень? — спахапіўся Алёшка.

Лес абсыхаў, параваў, галіны распрамляліся, і паволі з'явіўся певень. Распусціў хвост, задраў галаву з грэбенем і барадой і заспяваў.

Шкада, што не чуваць, як ён спявае, колькі не прыслухоўвайся...

А вось як лес спявае пасля навальніцы — чуваць. Сцякаюць з лісця кроплі — то адна за адной, то ўроссыпку, а то і разам пальюцца светлым ліўнем, калі лось нечакана зачэпіць за дрэва. Уздыхаюць, узнімаюцца, растуць травы, ад чаго варушыцца мінулагодняе лісце, і варушэнне гэтае нагадвае лістапад, да якога яшчэ так далёка. Птушкі прабуюць галасы, спачатку баязліва, няпэўна, потым усё смялей, выразней, званчэй!




## ДАСКАНАЛЫ МАТОР

Наша сэрца — найдасканальшы матор у свеце. Яно з такой сілай выкідвае кроў у артэрыі, што яна абягае ўсё цела і вяртаецца на месца старту ў сярэднім за 20 секунд.

У артэрыях кроў прабягае за секунду паўметра, у венах — 6-8 сантыметраў, а ў капілярах — усяго адзін міліметр. За суткі наша сэрца развівае моц у 270 конскіх сіл. Кожную секунду яно пераганяе па сасудах 100 грамаў крыві, а за суткі — 10 тысяч літраў!

Гэта значыць, што за суткі сэрца выконвае працу цэлай брыгады грузчыкаў, якія перакладаюць у таварны вагон 12 тон нейкага тавару.

За 70 гадоў жыцця сэрца сціскаецца 2 мільярды 600 мільёнаў разоў, перакачвае 150 мільёнаў літраў крыві. Такую работу мог бы выканаць супермагутны экскалатар, які ўзняў бы таварны поезд на вяршыню Эверэста. Дзіўная працаздольнасць, калі ўзяць пад увагу, што сам матор гэты — малалітражны, сам важыць толькі 300 грамаў.

Матор гэты вельмі эканамічны: за ўсё жыццё ў ім „згарае“ толькі 300 кілаграмаў цукру. Свет не ведае больш „скромнага“ рухавіка. Заўважце, што ён працуе беспярапынна і ўдзень і ўночы, ніколі не пераграваецца, ніколі не падлягае ані бягучым, ані капітальным рамонтам. Яму хапае толькі невялічкай паўзы ў 1/3 секунды паміж кожным рабочым ходам, каб адпачыць і заправіцца гаручым для новай працы.

## САЛОДКІ КОРАНЬ

Пра цукровыя буракі — салодкі корань — людзі нічога не ведалі, хоць на працягу трохсот гадоў выкарыстоўвалі ў харчаванні. Больш таго, лічылі лісце буракоў лячэбным. Арабы завезлі буракі ў Індыю, Афганістан, а потым і ў старажытную Грэцыю. У Кіеўскую Русь цукровыя буракі трапілі ў X-XI стагоддзі з Візантыі разам з перакручанай грэчаскай назвай „свекеле“ (у рускай мове — свёкла). У 1747 годзе немец Маркграф даказаў, што ў бураках ёсць цукар. Практычна выраблць цукар з буракоў пачалі каля 1800 года.

## ВОЗЕРА Ў МІСЦЫ

Многія вязуць дадому з возера Баскунчак, што ляжыць на Прыкаспійскай нізіне, падарункі — фантастычныя саляныя карункі. Яны баяцца толькі вільгаці. А рабіць іх вельмі проста. Бяруць дрот або кожную цікавую з выгляду жалезіну, дзеравяшку, знаходзяць на беразе возера ціхае, без хваляў месца, апускаюць на дно каркас будучага падарунка і спакойна ідуць дадому. А праз некалькі дзён падарунак гатовы. Яго трэба толькі высушыць на сонцы, каб зацвярдзеў.

А для тых, у каго няма пад рукою такога возера, маленькая парада: зрабіце яго самі. У шклянцы, місцы ці каструльцы распусціце як мага больш солі. Затым кладзіце ў раствор солі каркас... А далей усё адбудзецца, як у возеры Баскунчак.

## Пазнаёмімся

* ✻ *

БССР, 220114, г. Мінск-114, Ленінскі праспект, д. 145, кв. 302. Піліпенка Ірына. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* ✻ *

БССР, 220114, г. Мінск-114, Ленінскі праспект, д. 127, кв. 61. Шарахоўская Наташа. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* ✻ *

СССР, 370065, г. Баку, ул. Дружба Молодёжи, д. 22 Абраменко Ларисе. Дзяўчынка вучыцца ў трэцім класе.

## Пісьмо ў рэдакцыю

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА“!

Мне ўжо дзевяноста гадоў. Жыву я на калёніі ў Трашчотках, што ў Бельскай гміне. Мною апякуюцца гарцэры з пачатковай школы ў Пасынках. Памыюць у мяне падлогу, зробяць пакупкі ў краме, абед нават часам зварацць ды разам паабедаем. Вельмі ж хачу я праз „Зорку“ дзецям падзякаваць, пажадаць ім здароўя ды добрых поспехаў у вучобе.

**Арцём Мінюк,** Трашчоткі.
Словы дзядулі Арцёма запісаў Валянцін Семянюк.

**Пішуць школьнікі**

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА“!

У адной з „Зорак“ я прачытала, што хто дакармлівае звяроў і птушак, каб напісаў у рэдакцыю. Дык і я пішу да вас.

За нашай вёскай ёсць лес і я важу корм для звяроў. У нашым лесе жывуць сарны і зайцы, часам прыходзяць і дзікі. Каля дома ў мяне ёсць кармушка. Да яе прылятаюць розныя птушкі: сініцы, вераб'і і іншыя. Птушкам даю рознае насенне, сінічкам вешаю сала, іншым сыплю збожжа. Каля лесу стаіць паснік, іменна сюды я прывожу на санках сена, буракі, моркву для зайцаў і кавалкі солі для сарнаў. Я сама разумею, як цяжка зімой звярам, бо халадна і есці няма чаго.

Бацькі мне не шкадуюць сена для звяроў, бо летам я заўсёды памагаю збіраць сена з луга. А так выглядае мая кармушка.

**Аня Мартынюк,**
**Плёскі.**



# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* ✻ *

У тэатры сядзіць вельмі тоўсты чалавек. Жанчына, што сядзіць каля яго, кажа:

— Вы павінны былі купіць сабе два білеты.

Мужчына палез у кішэню і выцягнуў два білеты.

— Я гэта зрабіў, але бачыце... На жаль, другі білет з месцам на другім балконе...

* ✻ *

— Калі намацаеш у адным сваім боце два злотых, а ў другім — тры, дык што ты маеш? — пытаецца настаўнік у вучня.

— Маю чужыя боты на сабе, бо ў маіх нічога не было! — адказвае вучань.

* ✻ *

— Слухай, Юрка, яшчэ нядаўна ты займаў перадапошняе месца ў класе па вучобе, а цяпер спаў зусім на апошняе. Табе ўсё роўна гэта?

Юрка скрывіўся да плачу і са слязамі на вачах кажа:

— Ці ж гэта мая віна, што Янка захварэў?

## АДГАДАНКА




*Увайдзі ў браму парку, і прайдзіся па яго дарожках. Калі добра прыгледзішся, прачытаеш народную прымаўку.*

**Адрас рэдакцыі „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**